


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 17 (135), СНЕЖАНЬ 2011 ГОДА


**Цытата нумара:**

Сённямымаемдэмакратыю без грамадзян.

**Ральф Нэйдэр, абаронца праў спажыўцоў.**

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ЛІНЧАВАННЕ ПА-БЕЛАРУСКУ

**Суд Лінча больш вядомы з савецкіх часоў, як расправа над афраамерыканцамі з боку белых у ЗША. І сэнс лінчавання заключаецца ў бессудовай расправе, калі ахвяра ніякім чынам не можа сябе абараніць. На жаль, гэтая пачварная з'ява ў сваеасаблівай форме адноўлена на Беларусі. Катаванне украінскіх жанчын з Femen яскравае сведчанне апошняга часу.**

Але лінчаванне на Беларусі з'явілася напрыканцы мінулага стагоддзя, калі знік былы міністр унутраных спраў Юры Захаранка, а потым вядомы палітык Віктар Ганчар і яго сябар Аляксандр Красоўскі. У 2000 годзе такіж лёс напаткаў і вядомага журналіста Юрыя Завадскага. Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі лічаць гэтыя зніkненні палітычнымі забойствамі, якія знішчылі вядучых апазіцыйных лідэраў Беларусі. Еўрапейскія арганізацыі патрабавалі дасканалага даследавання зніkнення апазіцыйных дзеячаў Беларусі, але кіраўнік краіны не пагадзіўся на такое даследаванне. Але ж калі б рэжым ніякім чынам не быў датычны да зніkнення палітыкаў, то, як кажуць, і сам бы быў зацікаўлены ў міжнародным расследаванні. Толькі вось на гэта ён не ідзе з тых самых часоў.

Лінчаванне апазіцыйных актывістаў праз вываз за горад у лес з прымусам да капання магілы прымяняецца да моладзевых актывістаў у апошнія гады. Але ніякіх выніковых расследаванняў ні ў водным выпадку не было праведзена. І гэта ў квітнеючай і моцнай Беларусі, дзе яе кіраўнік шмат разоў заяўляў, што сітуацыю кантралюе поўнасцю. Але бандытаў, якія ажыццяўляюць "суд Лінча" на Беларусі яго шматлікія спецорганы да гэтага часу знайсці не могуць. Толькі хутчэй не жадаюць, бо мусіць ведаюць да каго прывядуць іхнія пошукі.

Апошнім прыкладам лінчавання стаў гвалт з трох украінскіх жанчын з Femen, якія 19 снежня зладзілі акцыю каля ўваходу ў будынак КДБ, заявіўшы пра салідарнасць з Беларуссю. Асобы, якія прадставіліся супрацоўнікамі унутраных органаў схапілі жанчын пад відэаназіраннем на Усходнім аўтавакзале сталіцы. Усю ноч вазілі іх па гораду, а потым перадалі іншым катам у масках, якія вывезлі іх на Гомельшчыну і ажыццявілі самасуд у стылі Лінча. Над жанчынамі здзекаваліся, прымушалі распранацца, збівалі, здымалі на відэа, потым пастрыглі, аблілі зялёнкай, машынным маслам і г.д.. Каты прадстаўляліся членамі РНЕ -- неіснуючай на Беларусі арганізацыі. Пасля катаванняў жанчын выкінулі ля ракі ў Ельскім раёне.

Камітэт дзяржбяспекі і РНЕ з Расіі адкрэсліліся ад удзелу ў лінчаванні трох украінак. Адмовіліся ад лінчавання і іншыя дзяржструктуры Беларусі. Тут самае простае – знайсці катаў, калі трэба бараніць гонар Беларусі, ў якой беспакаранна адбываецца катаванне. Але вельмі мала шанцаў, што гэта зробяць праваахоўчыя органы Беларусі. Лінчаванне іншадумцаў фактычна заахвочваецца на Беларусі. І мы ведаем аднаго чалавека, які можа спыніць гэта злачынства. Але ці жадае ён гэта рабіць? Ці не садзейнічае лінчаванне, па яго меркаванню, пашырэнню страху у краіне, які патрэбен для ўтрымання ўлады гвалтам? Бо відавочна, што "суды Лінча" з канца мінулага стагоддзя прыносяць яму супакойванне.

Массавае лінчаванне спынілася ў Амерыцы амаль сто гадоў таму. Канчаткова "ку-клукс-кланаўцы" – арганізатары лінчавання -- спынілі сваю дзейнасць у 60-х гадах мінулага стагоддзя. Колькі шчэ адбудзецца лінчаванняў на Беларусі залежыць ад пазіцыі яе кіраўніка. Але чым больш шчэ будзе такіх выпадкаў, тым больш ганебную ацэнку выставіць гісторыя цяперашняму рэжыму.

**Леанід Гаравы.**

БРАКАНЬЕРСТВА

## Незаконныя дзеянні расіян на Гарадоччыне

**На расійскіх браканьераў могуць завесьці крымінальную справу адносна ч.2 арт 281 КК РБ "Незаконная дабыча рыбы або іншых водных жывёл"**

Дваіх браканьераў з Расіі злавілі на возеры Езярышча, якое належыць Беларусі і мяжуе з Расіяй. Двое беспрацоўных расейцаў 13 снежня лавілі рыбу забароненымі прыладамі лоўлі - стаўнымі сеткамі.

Інспектары Гарадоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету канфіскавалі ў браканьераў тры сеткі агульнай даўжынёй 192 метра і ўлоў - 514 асобін рыб розных відаў агульнай вагай 12 кілаграмаў. Шкода, нанесеная расейцамі беларускай фауне, ацэнены ў 3 мільёны рублёў.

Як паведамляе прэс-служба Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, Гарадоцкі РАУС разглядае пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па частцы 2 артыкула 281 КК «Незаконная здабыча рыбы або іншых водных жывёл». Пакаранне за незаконныя дзеянні вагаюцца ад штрафа да пазбаўлення волі да трох гадоў.

**Т. Гаражанка.**

ПРАБЛЕМЫ ЭКАЛОГІІ

## ПРЭТЭНЗІІ ДА ЛЬНАЗАВОДАЎ

**Віцебскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя выказаў шмат заўваг да льназаводаў Віцебшчыны наконт выканання прыродаахоўнага заканадаўства. Трапіў у чорны спісак і Гарадоцкі льназавод.**

На калегіі Віцебскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя разгледжана пытанне аб выкананні льнозаводамі вобласці прыродаахоўнага заканадаўства. Праверкі засведчылі, што кіраўніцтва льназаводаў не надае патрэбнай увагі экалагічнай бяспецы на прадпрыемствах. Частка льназаводаў да гэтага часу не мае экалагічных пашпартаў, не зроблена інвентарызацыя выкідаў забруджваючых рэчаў у атмасферу, не выконваюцца правілы эксплуатацыі газаачышчальных установак.

Да гэтага часу не распрацаваны праекты ахоўных санітарных зон для свідравін. Не праводзяцца мерапрыемствы па рэканструкцыі, рамонту, будаўніцтву ачышчальных пабудоў. Найбольш востра гэтая праблема стаіць перад ААТ «Плiскi льназавод», дзе скід сцёкавых водаў ажыццяўляецца ў раку Чысцянка. Патрабуецца "рэанімацыя" будынка кропельнага біяфільтра і адстойніка на ачышчальных пабудовах ААТ «Гарадоцкі льназавод». На некалькіх прадпрыемствах устаноўлены парушэнні нормаў па абыходжанню з адыходамі вытворчасці і не прыняты меры па навядзенню парадку на зямлі. Льназаводамі ня праведзена рэгістрацыя ў РУП БелНДЦ «Экалогія» аб'ектаў па выкарыстанню адходаў кастрыцы.

Абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя прызнаў, што гаспадарчая дзейнасць льноперапрацоўчых прадпрыемстваў Віцебшчыны ажыццяўляецца з парушэннем прыродаахоўнага заканадаўства і аказвае шкоднае ўздзеянне на навакольнае асяроддзе. У мэтах выпраўлення недахопаў вінаватым у парушэннях неабходна распрацаваць спецыяльны комплекс мерапрыемстваў на 2012 - 2015 гады і прадугледзець іх фінансаванне. Але ж звычайна з фінансаваннем экалагічных спраў у нашых дзяржаўных вытворцаў вялікія праблемы.

**Т. Гаражанка.**

## "ГАСЦІНЕЦ" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета "Гасцінец" стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/hasciniec.html, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.**

## Аб'ява

**Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны і рэгіёна зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info**
**Стваральнікі інфармацыйнага партала запрашаюць неабыякавых грамадзян да ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. У рэдакцыі магчыма бясплатна атрымаць календарыкі на 2012 год, год Дракона.**

МЯСЦОВЫЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ВЫНІКАЎ АПЫТАННЯ

**У Гарадку адбылася прэзентацыя брашуры аб выніках апытання прадстаўнікоў прадпрыемстваў, як для прадстаўнікоў бізнесу, а таксама для актыўных грамадзян.**

Леанід Гаравы, актывіст асветніцка-праваабарончай арганізацыі "Рух "За свабоду!", прадставіў удзельнікам прэзентацыі брашуру "Справаздача аб выніках вывучэння думак прадстаўнікоў прадпрыемстваў г. Гарадка". Дадзеная брашура абагульнае вынікі апытання прадстаўнікоў прадпрыемстваў, якое праводзілася ў Гарадку летам па ініцыятыве сайта БЕЛАРДА.ІНФО.

Удзельнікі прэзентацыі атрымалі бясплатна гэтую брашуру ў каляровым друку, а таксама абмяняліся думкамі аб выніках апытання. Удзельнікі пагадзіліся з тым, што дадзенае апытанне аб'ектыўна адлюстроўвае стан прадпрымальніцтва ў Гарадку, а таксама тыя праблемы і перспектывы, якія неабходна вырашаць або дасягаць дзеля стварэння спрыяльнага бізнес-клімату ў Гарадку.

Таксама на сустрэчы дэманстравалася брашура "Справаздача аб выніках вывучэння меркаванняў прадстаўнікоў прадпрыемстваў і прадпрымальнікаў Беларусі", якая зроблена па ініцыятыве сайта БЕЛАРДА.ІНФО. У гэтай брашуры прадстаўлены абагульнены аналіз даследавання валанцерскіх груп, які быў праведзены ў 11 гарадах Беларусі і дазваляе бачыць месца Гарадка сярод іншых гарадоў Беларусі, дзе вывучалася меркаванне прадстаўнікоў прадпрыемстваў і прадпрымальнікаў.

Напрыканцы прэзентацыі яе ўдзельнікі выказалі пажаданне аб давядзенні вынікаў вывучэння меркавання прадстаўнікоў прадпрыемстваў да ўладных струтур дзеля прыняцця рэальных крокаў па паляпшэнню бізнес клімату ў Гарадку, а таксама выказалі прапанову аб правядзенні дадзенага апытання праз два-тры гады.

**Л. Антонаў.**

## АБ'ЯВА

- *Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.*
- *Рэдакцыя "Гасцінец" змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.*
- *Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас: Гарадок, вул. Галіцкага д.16 кв.2 ў кожны аўторак і чацвер з 16 да 18, або на тэлефоны газеты «Гасцінец».*
- *Жадаючыя атрымаць у карыстанне беларускія кнігі, часопісы або іх набыць звяртайцеся на адрас: Гарадок, вул. Галіцкага д.16 кв.2 ў кожны аўторак і чацвер з 16 да 18, або на тэлефоны газеты «Гасцінец»*
- *Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.*

МЯСЦОВАЕ РАЗВІЦЦЁ

# МНЕНИЕ ПРЕДПРИНИМАТЕЛЕЙ О ВЗАИМОДЕЙСТВИИ С ВЛАСТЬЮ

**Предлагаем часть публикации оценки мнения представителей частных предприятий Городка о развитии предпринимательства в городе. Изучение мнения представителей предприятий, инициированное сайтом БЕЛАРДА.ИНФО, позволяет говорить о реальных проблемах взаимодействия частных предприятий с властью в Городке, которые возможно решить. Есть смысл сообщить о тех проблемах взаимодействия с местной властью, которые можно решить.**

Опрос мнения представителей частных предприятий в Городке проводился среди 23 респондентов, преимущественно частных форм собственности. По результатам опроса был сделан отчет, который представлен на сайте http://haradok.info , а также в виде брошуры. Полученные результаты могут использоваться для работы по развитию региона, а также для повышения эффективности предпринимательской деятельности. Наиболее интересны результаты оценки взаимодействия с органами местной власти, как в отношении качества услуг власти, так и существующих проблем.

Результаты оценки качества работы органов местной власти респондентами показывают, что уровень неудовлетворенности качеством госуслуг у представителей самого малого бизнеса значительно выше, чем у респондентов, представляющих более крупный бизнес. Наиболее «некачественной» услугой на общем фоне стало содержание дорог, общественный транспорт, а также поддержка малых и средних предприятий. Под содержанием дорог имелось ввиду состояние дорог по всему Городку и нарекания вызывали дороги в частном секторе города. Опрошенные представители местного бизнеса удовлетворены качеством предоставляемых услуг местной власти в сфере охраны правопорядка, общественного транспорт и развитие инфраструктуры.

Респонденты в основном удовлетворены взаимодействием с такими структурами, как МЧС, санстанция, местные исполкомы, налоговая служба. Почти у 90% респондентов не было контактов с районным Советом депутатов, Комитетом госконтроля, а для почти 70% респондентов нет нужды в центре занятости и областных властях. Лидерами проблем для предприятий при работе с органами местной власти являются излишняя бюрократизация, большая отчётность, а также неуважительное отношение к предпринимателям.

Большинство опрошенных представителей предприятий расценивают Городок как удовлетворительное место для ведения бизнеса, а хорошим считает только пятая часть респондентов. Лишь 9% считают Городок бесперспективными для своей хозяйственной деятельности. Респонденты позитивно оценивают в Городке возможность аренды помещения, а также близость Витебска и рынка услуг, возможность иметь бизнес.

Среди негативных факторов Городка, как места ведения дела представители предприятий особенно выделяют следующие: низкая покупательная способность населения и недостаток квалифицированных кадров. Предприятия, занятые в торговле особенно чувствительны к тому, что в Городке низкая покупательная способность потребителей, а для предприятий, занятых в производстве и сфере услуг большой проблемой является недостаток квалифицированных кадров. Недостаток кадров создается в связи с алкоголизацией населения, а также оттоком квалифицированных специалистов в трудовую эмиграцию, в связи с низкой оплатой труда в Беларуси

На вопрос «Какие услуги должны предоставлять Вам органы местной власти, чтобы улучшить местный бизнес-климат?» предоставили ответы все респонденты. Наиболее часто встречаемые ответы приведены ниже в тематических блоках (языком оригинала). Цифра возле фразы соответствует количеству респондентов, у которых она встречалась.

Консультирование, обучение бизнеса: информировать об изменениях законодательства -- 8; квалифицированная юридическая помощь – 2;

Улучшение бизнес-климата: меньшая процентная ставка банковского кредита – 3; развивать инфраструктуру города для бизнеса -- 2; фонд поддержки предпринимателей с малой процентной ставкой – 2; оказывать реальную помощь предприятиям – 2; не мешать работать -- 2; банк заказов для строительства; доступность финансирования; меньше налогообложения;

Недвижимость для бизнеса: возможность выкупа арендуемого помещения за реальную цену; земля для торговли; лучшего ждать сложно; отвод земли, аренда или выкуп земли; предоставлять площади для дела;

Развитие инфраструктуры: улучшение дорог; развивать бизнес среду;

Общие комментарии: свободная конкуренция без протекционизма; содействовать привлечению инвестиций; трудно сказать.

Лидером желаемых услуг выступило «информирование об изменениях законодательства», что связано, как с частыми изменениями законодательства, так и вводом их в действие задним числом.

На вопрос «Какой является наибольшая проблема в работе с органами местной власти?» предоставили все респонденты. Наиболее часто встречаемые ответы приведены ниже в алфавитном порядке (языком оригинала). Цифра возле фразы соответствует количеству респондентов, у которых она встречалась: большая отчётность – 3; бюрократизм – 3; взносы в субботники; забюрократизированность отношений с центром занятости; завышенное требование к предприятию без учёта особенностей предприятия; излишняя бюрократизация -- 3; лоббирование чиновниками своих людей связанных с бизнесом; не понимание специфики предприятия – 2; неоднозначное толкование норм законодательства; неуважительное отношение к предпринимателям – 3; отсутствие единообразного подхода к ведению предприятия; отсутствие сочувствия предпринимателям; предвзятое отношение к предпринимателям; принуждение к выписке газет; проблема не решается, а наказывается инициатива если ищут виноватых; равнодушие к проблемам предприятия; трудно высказать своё независимое мнение, которое бы учли; нет проблем, решаем в диалоге; особых проблем нет – 2;

Лидерами проблем для предприятий при работе с органами местной власти являются излишняя бюрократизация, большая отчётность, а также неуважительное отношение к предпринимателям.

Из полученных результатов видно, что представители предприятий не требуют решения каких-то непонятных проблем, а говорят только о самых насущных проблемах. И решение этих проблем вполне для чиновников местной власти.

**Л. Горовой.**

КРЫМІНАЛ

# РАБАЎНІЦТВА СТАРОГА ЧАЛАВЕКА

**20 снежня адбыўся гвалтоўны напад на 80-гадовага пенсіянера, які знаходзіўся на вуліцы ў в. Кісялі Гарадоцкага раёна.**

Напад на пенсіянера адбыўся каля 18.15 двух злачынцаў, якія з выкарыстаннем фізічнай сілы адабралі ў пенсіянера 2,3 млн. рублёў, а таксамаскралі прадукты харчавання. Пенсіянер звярнуўся ў Гарадоцкі РАУС каля 20 гадзін з заявай аб тым, што яму нанесена шкода на 2 400 000 рублей.

Паводле інфармацыі прэс-службы Віцебскага УУС супрацоўнікамі следча-аператыўнай групы Гарадоцкага РАУС папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейсніла аднавяскоўка 1970 года нараджэння. Гарадоцкім РАУС ўзбуджана крымінальная справа па арт. 206 ч. 2 КК, саўдзельнік устанаўліваецца. Здзяйсненне рабавання па гэтаму артыкулу Крымінальнага кодэкса караецца абмежаваннем волі да 5 гадоў або не пазбаўленнем ад 2 да 6 гадоў.

**Т. Гаражанка.**

БЯСПЕКА РУХУ

# ПРАФІЛАКТЫЧНАЯ АКЦЫЯ “СПЫНІ БЯДУ!”

Праблема пьяных кіроўцаў не страчвае сваёй актуальнасці для Беларусі. За 11 месяцаў 2011 года складзена каля 50 тысяч пратаколаў на пьяных кіроўцаў. Гэта прымушае ДАІ праводзіць рэспубліканскую прафілактычную акцыю "Спыні бяду!". Месячнік стартаваў 7 снежня.

Пілотны праект аб стварэнні ў Інтэрнэце “Дошкі ганьбы” для нецвярозых кіроўцаў стартаваў у Гарадзенскай вобласці, да акцыі гарадзенцаў далучылася ДАІ Магілёўскай вобласці, дзе таксама сталі размяшчаць імёны і фотаздымкі нецвярозых кіроўцаў. Ёсць вялікая верагоднасць, што дадзеная ініцыятыва будзе падтрымана і на Віцебшчыне.

За 11 месяцаў на Віцебшчыне да адказнасці за кіраванне транспартным сродкам у нецвярозым стане прыцягнута 6141 кіроўца. З удзелам пьяных кіроўцаў на Віцебшчыне адбылося 82 ДТЗ, у якіх загінула 17 чалавек і паранена 100.

Складанае становішча з пьянствам кіроўцаў і на Гарадоччыне. За адзінаццаць месяцаў да адказнасці прыцягнута 115 грамадзян, якіх пазбавілі праў кіроўца. Але дзевяць з іх зноў былі затрыманы за кіраванне машынай у нецвярозым стане і адпаведна не мелі праў кіроўца. Супраць кожнага з гэтай “дзевяткі” ўзбуджана крымінальная справа за паўторнае кіраванне аўтатранспартам ў алкагольным стане.

Сёння ў краіне ўсё мацней гучаць галасы за магчымасць канфіскацыі аўтамабіля ў тых кіроўцаў, якія затрыманы ў нецвярозым стане. Магчыма да чарговай акцыі "Спыні бяду!" гэтыя меры будуць прыняты. А пакуль у краіне ўсё больш абласных ДАІ размяшчае на сайтах інфармацыю аб пьяных кіроўцах.

**Л. Антонаў.**

СПАРТЫЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# Пасьпяховыя старты трэццяга этапу Кубка свету

**Настасся Дубарэзава ўпершыню трапіла ў дзесятку мацнейшых біятланістак свету на трэццім этапе Кубку свету ў Хохфільцене. Гэта адбылося пад час жаночага спрынту. Таксама паспяхова выступіла Дар'я Домрачава, якая атрымала сярэбраную і бронзавую медалі адпаведна ў спрынце і гонкі праследавання.**

16 снежня адбыўся спрынт у жанчын на трэццім этапе Кубку свету па біятлону. Трэцці этап Кубка стартаваў таксама у Хохфільцене, бо ў французкім Анэсі няма снегу. Ва ўпартай барацьбе ў спрынце перамагла расіянка Вольга Зацава, якая апярэдзіла нашу Дар'ю Домрачаву на амаль 14 секунд у спрынце. Трэццяе месца ў шведкі Гелены Экхольм, яка адстала ад Зацавай на 30 секунд.

Выдатна для сябе з асабістым рэкордам выступіла наша зямлячка Настасся Дубарэзава, якая ўпершыню паднялася на 10-ю пазіцыю. Гэта адбылося дзякуючы таму, што упершыню Настасся дапусціла толькі адзін промах на другім агнявым рубяжы і адстала ад пераможцы на 1. 06, 5 секунды. Таксама добра выступіла і трэццяя наша біятланістка Людміла Калінчык, якая не шмат саступіла Дубарэзавай і заняла 13 месца ў спрынце. На гэтым старце горш пайшла стральба і гонка ў Надзеі Скардзіна, якая дапусціла два промахі і апынулася на 57 месцы. Але ўсе гэтыя біятланісткі трапілі ў пасьют – гонку праследавання.

17 снежня адбылася гонка праследавання ў жанчын, дзе стартавалі чатыры беларскі. Але свой шанец на перамогу не страціла Вольга Зайцава, якая не дапусціла ні воднага промаху на чатырох агнявых рубяжах.і перамагла ў пасьюце. Горша пайшла стральба ў Дар'і Домрачавай, якая дапусціла тры промахі і апынулася на трэццім месцы, а на другое перабралася шведка Гелена Экхольм.

Наша Настасся Дубарэзава на гэты раз не справілася са стральбой, дапусціўшы шэсць промахаў і заняла толькі 33 месца. На адзін промах менш у Людмілы Калінчык і адпаведна яна размясцілася на 31 месцы.

Па выніках двух стартаў у Хохфільцене Настасся Дубарэзава ўпершыню увайшла ў 40 лепшых біятланістак свету, атрымаўшы ўсяго 47 балаў і падняўшыся на 35 месца ў агульным заліку. Наша Дар'я Домрачава перайшла на другую пазіцыю, шчыльна наблізіўшыся да Магдалене Нойнер, у якой не пайшлі старты на трэццім этапе Кубка свету. Зараз у Домрачавай 327 балаў і яна толькі на 9 балаў саступае немкі.

**Л. Антонаў.**

ТРАНСПАРТНАЕ ЗДАРЭННЕ

# ПАЦЯРПЕЎ СТАРШЫНЯ РАЙСАВЕТА

**Раніцай 17 снежня ў субботу адбылося дарожна-транспартнае здарэнне з удзелам службовай аўтамашыны “Волга”, якой кіраваў старшыня Гарадоцкага райсавету У. Бяляеў.**

Здарэнне адбылося каля вёскі Вархі, калі “Волга” сутыкнулася з трактарам “Беларусь”, які рухуўся ў папутным накірунку. За рулём “Волгі” знаходзіўся старшыня Гарадоцкага райсавету У. Бяляеў, а ў аўтамашыне жыхары Гарадка 25 і 53 гадоў. Кіроўца разам з пасажырамі быў дастаўлены ў бальніцу, дзе 53-гадовы пасажыр, супрацоўнік Гарадоцкага райспажыўсаюза, памёр.

27-сямігадовы кіроўца трактара, які належыць ААТ “Гарадоцкі льназавод” не пацярпеў. Транспартнае здарэнне мае шырокі розгалас, як у раёне, так і вобласці. Яго толькі не заўважылі дэпутаты райсавета, калі без пытанняў прынялі бюджэт раёна на 2012 год.

**Л. Антонаў.**

МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

# ЛІСТЫ БУША І ГАВЭЛА БЕЛАРУСКІМ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ

НАПЯРЭДАДНІ КАЛЯДАЎ І НОВАГА ГОДУ БЫЛЫ ПРЭЗЫДЭНТ ЗША ДЖОРДЖ БУШ І ПРЭЗЫДЭНТ ЧЭХІІ ВАЦЛАЎ ГАВАЛ ДАСЛАЛІ ЗА КРАТЫ ЛІСТЫ БЕЛАРУСКІМ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ.

“Напярэдадні Раства і Новага году я адпраўляю пасланьне міру і надзеі народу Беларусі.

Палітычным зьняволеным і іх сем»ям — Андрэю Саньнікаву, Міколу Статкевічу, Мікалаю Аўтуховічу, Зьміцеру Бандарэнку, Алесю Бяляцкаму, Зьміцеру Дашкевічу, Эдуарду Лобаву і Паўлу Севярынцу — я хачу выказаць сваё захапленьне вашай адданасьцю будучай Беларусі, свабоднай і дэмакратычнай.

На мінулыя Каляды мы разам з вашымі шматлікімі прыхільнікамі чыталі імёны сотняў людзей, якія перамаглі страх і былі затрыманыя падчас пратэстаў супраць сфальшаваных выбараў. Хоць бальшыня была вызвалена, многія з вас застаюцца ізаляванымі ад вашых блізкіх і сяброў за вашыя мужныя ўчынкі дзеля свабоды.

На працягу гэтага году сьвет пабачыў нечаканы ўзыход свабоды ў Тунісе, Эгіпце і іншых краінах, якія, на думку шмат каго, былі несумяшчальныя са свабодай. Свабода — усеагульная, і прыдзе дзень, калі яна будзе зьзяць у самых змрочных кутках зямлі.

У гэты сьвяточны час вы мусіце ведаць, што пра вас не забыліся. Лора і я пасылаем нашыя віншаваньні вам і вашым сем»ям, і мы будзем думаць і маліцца пра вас.

Няхай вас блаславіць Бог, каб вы былі на свабодзе і разам з тымі, каго любіце, у 2012.

**Джордж Буш.**
**22 сьнежня 2011.**

**Вацлаў Гавал віншуе беларускіх палітвязьняў**

“Дарагія сябры. Хацеў бы сардэчна вас павіншаваць на парозе новага году і пажадаць вам і вашым блізкім, каб ён быў лепшым, чым мінулы. Выказваю салідарнасьць з вашай пазыцыяй і буду і надалей выкарыстоўваць усе магчымасьці, каб разам са сваімі сябрамі зьвяртаць увагу міжнароднай грамадзкасьці на парушэньне грамадзянскіх правоў у Беларусі.

Жадаю усяго добрага вам і свабоды вашай краіне.

**Вацлаў Гавэл.**
**Градэчэк, 15.12. 2011”.**




НАША ЖЫЦЦЁ

# БЕЛАРУСАМ ДАВОДЗІЦЦА ЖЫЦЬ НА СТО ДАЛЯРАЎ У МЕСЯЦ

КРЫЗІСНЫЯ З'ЯВЫ Ў ЭКАНОМІЦЫ ПРАМЫМ ЧЫНАМ АДБІЛІСЯ НА ДАБРАБЫЦЕ НАСЕЛЬНІЦТВА. СТАТЫСТЫКА КАЖА АБ ТЫМ, ШТО ПРЫКЛАДНА ТРАЦІНА СУАЙЧЫННІКАЎ МОГУЦЬ ДАЗВОЛІЦЬ ВЫДАТКАВАЦЬ НА СЯБЕ Ў МЕСЯЦ НЕ БОЛЬШ ЗА 900 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ. У ЭКВІВАЛЕНЦЕ - КРЫХУ БОЛЬШ ЗА 100 ДОЛАРАЎ. НА ФОНЕ РОСТУ КОШТАЎ НЕСКЛАДАНА ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО ЯКАСЦЬ СПАЖЫВЕЦКІХ РАСХОДАЎ БЕЛАРУСКІХ СЕМ'ЯЎ КАРЭННЫМ ЧЫНАМ ЗМЯНІЛАСЯ.

**Бюджэт беларускіх сем'яў**

Даведацца пра тое, як зьмяняецца дабрабыт беларускіх сем'яў, даваляе выбарачнае абследаванне хатніх гаспадарак, якое праводзіцца Белстатам.

| сума, якой валодае адзін член сям'і | колькасць сем'яў з адпаведным узроўнем даходу (у%) |
|---|---|
| да 900 тысяч рублёў | 35,1% |
| ад 900 тысяч да 1,5 млн. рублёў | 40,7% |
| ад 1,5 млн. рублей да 2 млн. рублёў | 13,6% |
| больш 2 млн. рублёў | 10,6% |

Дадзеныя апошняга выбарачнага абследавання (за трэці квартал), паказваюць, што больш за 35% беларускіх сем'яў маюць даход на аднаго члена сям'і да 900 тыс. рублёў.

У пачатку бягучага года беларускія сем'і маглі выдаткаваць на сваіх дамачадцаў значна больш грошай. Паводле даных выбарачнага абследавання хатніх гаспадарак, у першым квартале колькасць сем'яў са сярэднедушавым даходам да 100 даляраў (300 тыс. рублёў) складала па краіне толькі 1,9%! Многія сям'і ў пачатку года маглі выдаткаваць на кожнага дамачадца і 200, і 300, і нават 400 даляраў.

У трэцім квартале мы бачым іншую карціну. Самая вялікая група беларускіх сем'яў (40,7%) можа выдаткаваць на аднаго члена сям'і ад 900 да 1,5 млн. рублёў, гэта значыць у лепшым выпадку 180 даляраў.

У пачатку года найбольш шматлікай групай былі сем'і са сярэднедушавым даходам больш за 200 даляраў. Больш за палову (50,6%) беларускіх сем'яў маглі выдаткаваць у першым квартале на кожнага дамачадца ад 200 да 400 даляраў.

Увогуле, тэндэнцыя не радуе. Магчыма, у пачатку 2012-га сітуацыя з дабрабытам насельніцтва некалькі палепшыцца. Беларускія ўлады раней заяўлялі, што маюць намер у бліжэйшы час пайсці на павышэнне заробкаў. Ходзяць упартыя чуткі, што стаўка першага разраду, да якой прывязаныя зарплаты бюджэтнікаў, у пачатку наступнага года можа павялічыцца з цяперашніх 151 тыс. да 200 тыс. рублёў. Галоўнае, каб рост заробкаў, як гэта бывае ў нас, зноў не справакаваў рост коштаў.

**На што беларускім сем'ям хапае грошай**

Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў калісьці ў гэтым годзе заўважыў, што не варта вымяраць беларускія заробкі ў далярах. «Казаць аб зніжэнні заработнай платы ў доларавым эквіваленце некарэктна. У нас даляр не з'яўляецца валютай плацяжу ў крамах і валютай плацяжу за камунальныя паслугі», - падкрэсліваў летам гэтага года міністр эканомікі.

Сапраўды, цэны ў беларускіх крамах указаны не ў доларах, а ў рублях. Аднак нават супастаўленне заробкаў з рублёвымі коштамі ў крамах кажа аб тым, што пакупная здольнасць беларускіх сем'яў за гэты год рэзка знізілася.

Мы паказалі вышэй, што прыкладна траціна беларускіх сем'яў маглі выдаткаваць у трэцім квартале на сваіх дамачадцаў у месяц не больш за 900 тыс. рублёў. Прапануем параўнаць, што на гэтыя грошы можна было купіць у студзені гэтага года і ў верасні (табл.2).

**Кошт мінімальнага набору прадуктаў харчавання, па дадзеных Белстата, павялічыўся ў студзені-верасні ў 1,8 разы.**

| тавар | колькасць тавару (кг), якое можна было купіць у студзені | колькасць тавару (кг), якое можна было купіць у верасні |
|---|---|---|
| тварог | 97,9 | 65,6 |
| макаронные вырабы | 285 | 147,1 |
| жывёльны алей | 46,2 | 29,5 |
| рыс | 191,4 | 76 |
| рыба марожаная | 123,6 | 42,3 |
| тушкі курэй | 100,5 | 44,1 |
| яблыкі | 226,1 | 132,8 |

Так што, як бачым, нават калі забыцца пра даляры, «які ў нас не з'яўляецца валютай плацяжу», у рублях пакупніцкая здольнасць беларускіх сем'яў таксама прыкметна ўпала. Хочацца, аднак, спадзявацца, што матэрыяльныя магчымасці беларусаў усё ж такі вырастуць. Таму што наўрад ці краіну, дзе людзі жывуць на 100 даляраў у месяц, можна называць «моцнай і квітнеючай».

* Разлікі на аснове сярэдніх цэн Белстата.

**Дзмітрый Заяц, БЕЛАПАН.**

ПАМЯЦІ ВАЦЛАВА ГАВЭЛА

# «СІЛА БЯССІЛЬНЫХ»

ПА ЎСХОДНЯЙ ЕЎРОПЕ БЛУКАЕ ПРЫВІД, ЯКІ НА ЗАХАДЗЕ НАЗЫВАЮЦЬ «ДЫСІДЭНЦТВА».

Гэты прывід - не спараджэнне нябёсаў. Ён арганічна ўласцівы сістэме, якая ў цяперашняй фазе свайго гістарычнага развіцця ўжо даўно не абапіраецца, а па шэрагу прычын і не можа абапірацца, на непрыкрытае і жорсткае беззаконьне ўлады, якое выключае любыя праявы нонканфармізму. А з іншага боку, гэтая сістэма настолькі палітычна інэртныя, што фактычна не дапускае ніякага пратэсту ў сваіх афіцыйных структурах.

Хто ж, уласна, яны, гэтыя так званыя «дысыдэнты»? На чым заснавана іх пазіцыя і ў чым яе сутнасць? У чым сутнасць «незалежных ініцыятываў», якія аб'ядноўваюць дысідэнтаў, і наколькі рэальныя шанцы ў гэтых ініцыятыў? Ці дарэчы ўжываць у дачыненні да іх дзейнасці паняцце «апазіцыя»? Калі так, то чым, уласна, такая «апазіцыя» - у рамках гэтай сістэмы - з'яўляецца, якім чынам дзейнічае, якую ролю ў грамадстве гуляе, на што спадзяецца і на што можа спадзявацца? Ці пад сілу наогул дысідэнтам - як людзям, якія знаходзяцца па-за ўсякімі ўладнымі структурамі ў становішчы свайго роду «паўграмадзян», - якім-небудзь чынам уплываць на грамадства і грамадскую сістэму? Ці могуць яны наогул што-небудзь змяніць?

(...)

Між інтэнцыямі посттаталітарнай сістэмы і інтэнцыямі жыцця прасціраецца прорва: у той час, як жыццё арганічна імкнецца да плюралізму і шматкаляровасці, да незалежнасці самавызначэння і самаарганізацыі, карацей кажучы, да рэалізацыі сваёй волі, посттаталітарнага сістэма, наадварот, патрабуе маналітнасці, аднастайнасці, дысцыпліны, у той час, як жыццё імкнецца ствараць усе новыя і новыя неверагодныя «структуры», посттаталітарнага сістэма навязвае ёй «самыя неверагодныя станы».

Лёгка ўявіць сабе грамадства, якое мае добрыя законы, у якім гэтыя законы выконваюцца цалкам і ў якім пры гэтым немагчыма жыць. І можна, наадварот, прадставіць цалкам цярпімае жыццё пры недасканалых або калі недасканала прымяняюцца законы. У выніку галоўнае ў тым, якое само жыццё і служаць яму законы ці ж яны яго душаць, а ні ў якім выпадку не ў тым, ці выконваюцца яны ці не (у рэшце рэшт, часта іх літаральнае выкананне можа стаць для годнага жыцця самай вялікай катастрофай).

Ключы да чалавечага, годнага, забяспечанага і шчаслівага жыцця не захоўваюцца ў канстытуцыі або ў крымінальным законе: тыя толькі рэгламентуюць, што можна і чаго нельга, тым самым жыццё палягчаючы або ускладняючы, абмяжоўваючы ці не абмяжоўваючы, караюць, прынараўліваюцца або захоўваюць яго, але ніколі не напаўняюць яе зместам і сэнсам.

Улада знаходзіцца ў палоне ва ўласнай хлусні, таму і звяртаецца да фальшу. Фальсіфікуе мінулае. Фальсіфікуе сучаснасць і фальсіфікуе будучыню. Падтасоўваюць статыстычныя дадзеныя. Робіць выгляд, быццам бы ў яе няма ўсёмагутнага і здольнага на ўсе паліцэйскага апарата. Прыкідваецца, што паважае правы чалавека. Прыкідваецца, што ні ў чым не прыкідваецца.

Чалавек не абавязаны ўсім гэтым містыфікацыям верыць. Аднак ён павінен паводзіць сябе так, нібы верыць ім; па меншай меры, моўчкі захоўваць талерантнасць ці хаця б быць у ладу з тымі, хто гэтыя містыфікацыі ажыццяўляе. Хоць бы таму чалавек вымушаны жыць у хлусні. Ён не павінен прымаць хлусня. Дастаткова, што ён прыняў жыццё, якая неаддзельная ад хлусні і немагчымая па-за хлусні. Тым самым ён сцвярджае сістэму, рэалізуе яе, успрымае яе, з'яўляецца ёю.

**Вацлаў Гавэл, 1978 г.**

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# БЕЛАРУСКІ БІЗНЭС НЕ ВЕРЫЦЬ У СПРАВЯДЛІВУЮ АМНІСТЫЮ КАПІТАЛУ

У БЕЛАРУСІ МОЖА БЫЦЬ ПРАВЕДЗЕНАЯ АМНІСТЫЯ КАПІТАЛУ. ПАВОДЛЕ ІНФАРМАЦЫІ НАМЕСНІКА ДЫРЭКТАРА ЦЭНТРА АБАРОНЫ ПРАВОЎ УЛАСНАСЦІ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ КАНФЕДЭРАЦЫІ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА ІГАРА ЛЕДНІКА, НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ ПАПЯРЭДНЕ ЎЖО ПРЫНЯТА ТАКОЕ РАШЭННЕ.

Аднак эксперты сумняюцца, што ўладам, якія б стымулюючыя меры яны ні прынялі, ці ўдасца легалізаваць вялікія аб'ёмы ценявых рэсурсаў. Хто ў разумным розуме купіцца на амністыю капіталу ў краіне, дзе не працуюць законы, дзе ва ўладзе сем пятніц на тыдні і дзе рашэнні могуць прымацца і адмяняцца заднім лікам?

Між іншым, ініцыятыва разгледзець пытанне аб правядзенні амністыі капіталу зыходзіць ад Аляксандра Лукашэнкі. Такое даручэнне прэзідэнт даў ураду і Нацбанку яшчэ 30 жніўня на нарадзе па пытаннях сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны.

Пагадзіцца на правядзенне амністыі капіталу беларускія ўлады вымушаныя з-за вострага недахопу фінансавых рэсурсаў, і гэта відавочна. У сваім лісце ад 14 верасня на імя прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча гэта пацвярджае і кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова.

«У сітуацыі, якая ў цяперашні час напружанай сітуацыі ў фінансавай сферы і ў эканоміцы ў цэлым патрабуецца прыняцце дадатковых эфектыўных мер па стымуляванню прыцягнення ў законны эканамічны абарот фінансавых рэсурсаў, у тым ліку ценявых даходаў і капіталу. У сувязі з гэтым рэалізацыя комплексу мерапрыемстваў па легалізацыі даходаў і амністыі капіталу, мяркуем, вельмі актуальная», - гаворыцца ў лісце.

Пакрыць патрэбнасці ў фінансаванні дазваляюць прамыя замежныя інвестыцыі. Але іх прыцягненне ў сувязі з неспрыяльным інвестыцыйным кліматам ідзе туга. «У гэтым годзе планавалася прыцягнуць 6,5 млрд. даляраў прамых замежных інвестыцый. Па факце мы маем 3,8 млрд. даляраў з улікам продажу «Белтрансгаза». Пры гэтым у рэальны сектар эканомікі было накіравана толькі 770 млн. даляраў», - канстатуе Балточка.

Сітуацыю з інвестыцыямі ў асноўны капітал таксама нельга назваць пасяховай. Па факце за 10 месяцаў аб'ём інвестыцый вырас на 14,3% у параўнанні з паказчыкамі за аналагічны перыяд мінулага года. «Але рост адбыўся шмат у чым за кошт дэвальвацыі беларускага рубля», - звяртае ўвагу эксперт.

Шэраг фактараў паказваюць на тое, што ў Беларусі высокая патрэбнасць правесці амністыю капіталу. І бізнес-супольнасць падтрымлівае гэты крок. Па словах прадстаўніка дзелавых колаў Ігара Ледніка, амністыя разглядаецца перш за ўсё як інструмент павышэння эканамічнай бяспекі.

«З аднаго боку, за кошт атрыманых дадатковых падаткаў папаўняецца бюджэт, з другога - фінансавыя рэсурсы ўключаюцца ў эканамічны абарот, дапамагаючы ажыццяўляць мадэрнізацыю прадпрыемстваў і павышаць якасць вырабляемай прадукцыі», - адзначае эксперт.

Як падкрэслівае, у сваю чаргу, Антон Болточко, амніставаць ёсць што. «Яшчэ ў 2007 годзе Сусветны банк ацэньваў памер ценявой эканомікі ў Беларусі на ўзроўні 53% ВУП. Цяпер, я думаю, ён складае ўжо больш за 60%. Адтуль і трэба браць грошы, інакш ценявая эканоміка пачне кіраваць намі», - адзначае эканаміст.

Аднак у рамках існуючага заканадаўства правесці амністыю капіталу немагчыма, перакананы саветнік Міжнароднай фінансавай карпарацыі Валеры Фадзееў. «Калі прыняць заканадаўчы акт аб амністыі капіталу, але пры гэтым нічога не памяняць у дзеючым заканадаўстве, мы не даб'емся поспеху», - перакананы эксперт.

Сябра ініцыятыўнай групы па стварэнні «Цэнтра права Е3 і прававога развіцця» Максім Корлюк адзначае і яшчэ адзін важны фактар. Насельніцтву і бізнэсу трэба перш за ўсё гарантаваць ананімнасць, а таксама даць гарантыі невыкарыстання вынікаў амністыі на шкоду бізнэсу. Па словах эксперта, такія гарантыі ў сукупнасці з іншымі фактарамі дазволілі шэрагу еўрапейскіх краін паспяхова правесці амністыю капіталу.

Так, напрыклад, Бельгія ў свой час за кошт амністыі капіталу фізічных асоб легалізавала 5,6 млрд. еўра, пры гэтым бюджэт паступіла каля 500 млн. еўра. Партугалія ў 2005 годзе такім чынам вярнула ў краіну 43,5 млрд. еўра.

Аднак што б ні вырашылі наверсе, праблема ў тым, што ў Беларусі гэты нумар не пройдзе. Насельніцтва і бізнес ўжо настолькі не давяраюць уладзе, што ніякія запэўніванні не пераканаюць вывесці капітал з ценю. Ужо не раз, абвясьціўшы эканамічную лібералізацыю, улады давалі задні ход, і наіўныя прадпрымальнікі жорстка пакуталі. Так, улады ўводзілі, а потым раптам адмянялі мараторый на праверкі, ўводзілі свабоднае цэнаўтварэнне, а потым каралі бізнэс за рост коштаў і змушалі адкручваць кошты назад. З амністыяй капіталу будзе тое ж самае, перакананыя эксперты. Капітал амністуюць, а ўладальнікаў гэтага капіталу потым пасадзяць, прычым з канфіскацыяй - і такі сцэнар выключаць нельга.

**Андрэй Кажамякін, БЕЛАПАН.**

ПРАЦОЎНАЯ ЭМІГРАЦЫЯ

# БЕЛОРУСАМ НУЖНЫ НОРМАЛЬНЫЕ ЗАРПЛАТЫ, А НЕ ПОСЛЕДНИЕ КОПЕЙКИ ИЗ БЮДЖЕТА

АЛЕКСАНДР ЛУКАШЕНКО НЕ СКЛОНЕН ПРЕУВЕЛИЧИВАТЬ ПРОБЛЕМУ ЭМИГРАЦИИ ИЗ БЕЛАРУСИ КВАЛИФИЦИРОВАННОЙ РАБОЧЕЙ СИЛЫ. ОДНАКО СПЕЦИАЛИСТЫ МАССОВО ПОКИДАЮТ БЕЛАРУСЬ.

На пресс-конференции 23 декабря официальный лидер рассказал о своем видении закрепления кадров в Беларуси. «Надо создавать выгодные условия для работы дома», — сказал глава государства.

Вместе с тем он подчеркнул, что «не склонен демонизировать проблему». Ведь человек ищет, где лучше, как рыба — где глубже. «Одно дело работать в Беларуси за одну тысячу долларов, другое — в Москве за две тысячи», — заметил Лукашенко, пояснив, что если жить семье за одну тысячу долларов в Беларуси, это то же самое, что в Москве за две тысячи долларов.

«Можно жить на воде, на кусочке хлеба, но работать тогда каменщиком будет сложно, плитку укладывать и так далее», — отметил Лукашенко. Он подчеркнул, что жизнь в Москве сопряжена с риском и вспомнил недавний случай, когда шестеро белорусов в Москве погибли в пожаре. Гастарбайтеры жили в строительных бытовках. Понятно, что люди оказались в таких условиях, чтобы сэкономить на жилье и заработать в разы больше, чем могли бы в Беларуси.

### Из Беларуси бегут не от зарплаты в тысячу долларов

В Беларуси в ноябре по сравнению с октябрем 2011 года реальная зарплата (рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги) уменьшилась на 2,7%. Номинальная начисленная среднемесячная зарплата в январе-ноябре 2011 года составила 1 млн. 840,2 тыс. рублей (около 220 долларов), в том числе в ноябре — 2 млн. 439,7 тыс. (около 290 долларов) и по сравнению с октябрем 2011 года увеличилась на 5,2%, или на 121,7 тыс. рублей.

На промышленных предприятиях средняя зарплата в ноябре этого года составила 2 млн. 877,1 тыс. рублей. В частности, в строительных организациях — 2 млн. 661,8 тыс., в организациях транспорта и связи — 2 млн. 702,9 тыс., сельского хозяйства, охоты и лесного хозяйства — 1 млн. 681,8 тыс. рублей.

Максимальный размер средней зарплаты в ноябре по отдельным отраслям был зафиксирован в сфере финансовой деятельности — 4 млн. 148 тыс. рублей, минимальный — у работников сельского хозяйства, охоты и лесного хозяйства (1 млн. 682 тыс.).

В тоже время, в промышленности Московской области, где нашли себе применение немало белорусов, уровень средней зарплаты составляет почти 30 тысяч российских рублей, то есть около тысячи долларов.

Таким образом, очевидно, что в Россию белорусы, те же строители, бегут не с тысячедолларовых зарплат, а за ними.

Как считает Лукашенко, заработная плата должна расти, но только тогда, когда она будет заработана. «Если мы говорим о повышении зарплат, пенсий — и мы это делали несколько раз в этом году — мы не использовали эмиссионные деньги. Мы повышаем сегодня заработную плату, хоть понемножку, — я это обещал людям — пенсии, пособии и прочее только тогда, когда у нас есть деньги. Есть в бюджете деньги — последнюю копейку отдадим людям», — сказал Лукашенко. Однако, по его словам, «печатать деньги и платить людям нельзя, ибо это инфляция».

Читать полностью: http://naviny.by/

**Елена СПАСЮК, БЕЛАПАН.**

ШЛЯХ УЛАДАЎ

# КИТАЙСКИЕ «ЖИГУЛИ» – МЕЧТА ЛУКАШЕНКО И СЕМАШКО?

ВЛАСТИ УПОРНО НЕ ОСТАВЛЯЮТ ПОПЫТОК ПЕРЕСАДИТЬ БЕЛОРУСОВ НА ДЕШЕВЫЕ (ВО ВСЕХ СМЫСЛАХ) КИТАЙСКИЕ АВТО. НА ПЯТНИЧНОЙ ПРЕСС-КОНФЕРЕНЦИИ ВСЕХ ОШАРАШИЛ ВИЦЕ-ПРЕМЬЕР ВЛАДИМИР СЕМАШКО: УЖЕ ПОДПИСАН ДОГОВОР О СОЗДАНИИ СП С КОМПАНИЕЙ LIFAN. «САЛІДАРНАСЦЬ» ПРИСМОТРЕЛАСЬ К «ЧУДУ» КИТАЙСКОГО АВТОПРОМА.

– Сегодня министр промышленности доложил мне о том, что завершились переговоры и подписаны документы с китайской компанией Lifan о создании в Борисове совместного предприятия легковых автомобилей с максимальной перспективой локализации, — рассказал 23 декабря первый заместитель премьер-министра Владимир Семашко, сообщает БЕЛТА. — Учредителями с белорусской стороны выступят БАТЭ и БелАЗ.

– Привлекая сюда крупную корпорацию, мы говорим: ребята, приходите, мы вам создадим лучшие условия, лучше, чем у соседей, — отметил Александр Лукашенко.

Между тем, инициатива белорусских властей по производству китайских автомобилей не может не настораживать. Во-первых, еще долго не забудется почти анекдотичная история с выпуском в Беларуси «Самандов». Тот же Владимир Семашко в начале года сообщил, что за 5 лет работы иранцы произвели и продали только около тысячи автомобилей – цена на устаревшую модель оказалась неоправданно высокой. Вице-премьер пообещал сотрудничество с иранцами разорвать.

Во-вторых, автомобили Lifan уже с 2008 года собираются на заводе в Карачаево-Черкессии. Производственная мощность предприятия – 50 тысяч авто в год и она далеко не освоена: за первое полугодие в России продано лишь около 7500 автомобилей, сообщает lifan-car.ru. Можно лишь догадываться, зачем белорусским властям создавать в Таможенном союзе второй завод по выпуску непопулярных авто. В-третьих, качество китайских авто, мягко говоря, далеко от совершенства. Рассмотрим две самые популярные модели Lifan, производящееся в России, – Lifan Solano и Lifan Smily.

Седан Lifan Solano внешне похож на Toyota Corolla начала 2000-х годов. Двигатель 1,6 литра с 109 лошадками слабоват и «в гору идет очень неохотно», пишет издание «За рулем». Есть и множество и других проблем: слабая шумоизоляция, неудобные сиденья, двери закрываются лишь с сильного размаха и т.д. Цена – 390 тысяч российских рублей (12,5 тыс. долларов).

Хэтчбек Lifan Smily (грубоватая копия Mini Cooper) удивляет еще больше. Длина малолитражки ультрабюджетного класса (в России она стала производиться лишь в этом году) – 3,7 м, ширина – 1,6 м. Мотор 1,3 л мощностью 89 л. с. разгоняет авто до 100 км/час аж за 14,5 секунды, пишет kp-avto.ru. И, конечно, множество других проблем: шум в салоне после 100 км/ч превращается в вой, высоким людям внутри сидеть неудобно и т.д. Участвовавший в тест-драйве журналист издания «За рулем» поделился с читателями: «Когда ко мне подсел достаточно весовый коллега, «Смайлик» скис. Когда на абсолютно ровной дороге при утопленной в пол педали газа скорость падает от встречного ветра – это нонсенс». Выводы других изданий также неутешительны: «Жигули» с той же загрузкой едут быстрее, если Lifan Smily и способен стать для кого-либо находкой, то только «для небогатого обитателя глубинки». Цена авто – 260 тысяч российских рублей (8,3 тыс. долларов).

Остается пожелать господам Лукашенко и Семашко в полной мере насладиться достоинствами Lifan, лично пересев с продукции западного автопрома на китайские «Жигули».

**Николай Чернявский.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), +375(33)6969347 (МТС)

**Падпісана да друку 28.12.2011 у 16.45.** Наклад: 290 асобнікаў.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца з дапамогай аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.